БЕЛАРУСКІЯ КАЛУМБЫ

# ЗВЯЗДА ІМПЕРАТАРСКАГА БАЛЕТУ

У канцы васемнаццатага стагоддзя слава аб беларускім горадзе Шклове абыйшла ўсю Еўропу. З усіх канцоў свету ехалі сюды купцы. Тут можна было спаткаць маўчуноў-баварцаў, гжэчных французаў, рухлівых італьянцаў, самавітых грэкаў, спрытных малдаванаў... Іх прыцягвалі багатыя кірмашы, якія горад арганізоўваў два разы ў год. Летні пачынаўся на дзевяты тыдзень пасля вялікадня, зімовы — на другі пасля вялікага посту.

Бурліла тут не толькі гандлёвае жыццё. Тут частымі гасцьмі бывалі зоркі італьянскай і французскай оперы і іншых тэатраў. Сямён Гаўрылавіч Зорыч, які больш за дваццаць год правіў Шкловам, любіў мастацтва. Ён пабудаваў тут не толькі фабрыкі, заводы, але і тэатр. Операй кіравалі італьянскія спецыялісты. Гэта яны зрабілі, што балету ў Шклове не дужа многа знаходзілася сапернікаў у Еўропе, — як у тэатрах прыватных, так і пры каралеўскіх дварах.

Артыстамі былі тут прыгонныя вясковыя дзяўчаты. Як і ўсе яны, Кацярына Азарэвіч трапіла ў тэатр выпадкова. Увагу балетмайстра Марыядзіні прыцягнула сваім тэмпераментам. І хоць італьянец быў небагаты, купіў дзяўчыну. Быў упэўнены, што верне грошы і з немалым барышом. Марыядзіні верыў, што з Кацярыны вырасце пецярбургская прымадонна.

Балетмайстар стаў займацца з Азарэвіч асобна. Пасля таго, як паганяе дзве гадзіны разам з усімі, дадаткова вучыў Кацярыну. У дзяўчыны пад канец дня, калі ўвечары не было спектакля, ногі як на цвікатых падэшвах, лыткі нясцерпна, пякуча нылі. Прыбегшы ў пакой, апускала ногі ў балею з вадою — каб хоць трошкі адышлі, ураніцы ж зноў на катаргу ў зале для заняткаў.

Але і гэта паўбяды. Горш, калі трэба было ісці ў парк рабіць „жывыя скульптуры". Адбывалася гэта так. Пад шатамі паркавых дрэў, асветленыя полымем палаючай у бочках смалы, у позах міфічных алімпіек застывалі на памосціках голыя дзяўчаты...

Усё выцярпела, усё вынесла таленавітая дзяўчына. Праз нейкі час імя Кацярыны Азарэвіч стала паказвацца на афішах імператарскага балету. Зала першага тэатра краіны доўгія гады адразу пазнавала сярод іншых яе гнуткую рысіную постаць і воклічамі захаплення адказвала на яе спружыністыя, імклівыя рухі. Бацькам яе дочак стаў Апалон Аляксандравіч Маўкаў, брыгадзір і вершатворац, усемагутны дырэктар імператарскіх тэатраў. Дочак Кацярыны таксама чакаў зайздросны лёс. Яны пайшлі ўслед за маці. І беларускае прозвішча Азарэвічавы стала прозвішчам паважанай у расійскім тэатры акцёрскай дынастыі...

**Ул. Малашкевіч**

(Працяг са стар. 1)




пушчы тры строгія запаведнікі агульнай паверхняй 7.700 га. Клапоцячыся аб захаванні натуральнага асяроддзя пушчы, сур'ёзна нарушанага праведзенымі ў 1960-1967 гадах меліярацыйнымі працамі, пачынаючы ад 1972 года ў пушчы і яе найбліжэйшых ваколіцах, гэта значыць у адлегласці ад 5 да 12 км ад яе межаў, забаронены ўсялякія працы гэтага тыпу. Комплекс балот „Дзікае" абшарам каля 8.000 га, які знаходзіцца па-суседску з пушчай і меліяраванымі балотамі Дзікага Нікара, прызнаны гідралагічным запаведнікам рэспубліканскага значэння.



*Помнік на месцы экзекуцыі ва ўрочышчы „Пярэраў". Месца сустрэч жыхароў Белавежы і савецкай часткі пушчы.*

Наогул ахове прыроды ў савецкай частцы пушчы ўдзяляецца вялікая ўвага. Тут праводзяцца шырокія навуковыя даследы ўласнымі навуковымі супрацоўнікамі. У пушчы гадуецца лоўная жывёла, галоўным чынам алені, дзікі і казулі. Аленяў і дзікоў ловяць у пушчы і перавозяць у аддаленыя раёны Савецкага Саюза, дзе іх раней ліквідавалі ў мэтах рэстытуцыі на новых лавецкіх тэрыторыях. Ужо шэраг гадоў вядзецца ў пушчы гадоўля зуброў, а пачаткам яе былі тры зубры, атрыманыя ў дары з Польшчы ў 1947 годзе. Што датычыцца гадоўлі зуброў, дык вядзецца тут цеснае супрацоўніцтва польскіх і савецкіх спецыялістаў. Вынікам яго былі чарговыя польска-савецкія канферэнцыі, апошняя з якіх мела месца ў 1971 годзе. У галіне доследаў над зубрамі абодва бакі таксама абменьваюцца вопытам. Галоўны спецыяліст у галіне гадоўлі і доследаў над зубрамі кандыдат навук Людміла Нікалаеўна Корачкіна кансультуецца часта наконт методыкі доследаў з др Станіславам Бароўскім, работнікам Інстытута даследавання млекакормячых ПАН у Белавежы, які вядзе падобныя доследы ў польскай частцы пушчы. Таксама намеснік дырэктара гэтай гаспадаркі па навуковых справах Павел Кірылавіч Міхалевіч вядзе супольна з навуковым супрацоўнікам Нацыянальнага Белавежскага парка др Чэславам Аколавым доследы над працэсам раскладу драўніны ва ўмовах пушчы. У час сустрэч работнікі абедзвюх частак пушчы вымяньваюць матэрыялы, якія датычацца бібліяграфічных дадзеных аб новых навуковых артыкулах на тэму Белавежскай пушчы.



*„Белая вежа", пабудаваная ў 1286 годзе.*

Вынікі навуковых прац публікуюцца ў рэгіянальным выданні „Беловежская пуща — Исследования", выдадзены ў мінулым годзе VIII том якога змяшчае артыкул, прысвечаны 50-гадоваму юбілею Нацыянальнага Белавежскага парка і яго значэнню для развіцця прыродазнаўчых навук у Польшчы. Прыгажосць Белавежскай пушчы паказваюць 3 навукова-папулярныя фільмы, адзін з іх, пастаўлены пад навуковым кіраўніцтвам Л. Н. Корачкінай, прысвечаны жыццю і звычаям зуброў. У 1973 годзе выйшаў прыгожы альбом аб Белавежскай пушчы фатографа Ананіна. У друку знаходзіцца серыя папулярных брашур, паасобныя томікі якіх прысвечаны лоўным звярам, зубрам, грыбам, дрэвам, лячнічым травам, насякомым, птушкам.

Прызнаючы выключнае значэнне Белавежскай пушчы для навукі, у 1974 годзе было прынята рашэнне аб стварэнні ў Каменюках Інстытута біягеацэналогіі Акадэміі навук БССР. Гэты інстытут будзе праводзіць усебаковыя доследы над прынцыпамі найбольш эфектыўнай і рацыянальнай гаспадаркі багаццямі прыроды, а таксама спосабамі іх аховы не толькі на тэрыторыі пушчы, але таксама і на абшары ўсёй Беларусі.

**Чэслаў Аколаў**
Фота аўтара




■ 11 красавіка адбыліся на Бельшчыне сустрэчы з пісьменнікамі з літаратурнага аб'яднання БГКТ „Белавежа". Віктар Швед чытаў свае вершы ў школе ў Храбалах і ў школе і клубе ў вёсцы Аўгустова. Празаік Сакрат Яновіч знаёміў прысутных са сваімі творамі ў школе ў Плёсках і ў Бельску ў школе № 3, а таксама ў клубе ў Стрыках. Нашыя літаратары адказвалі таксама на шматлікія пытанні сваіх сардэчных слухачоў.

■ 14 красавіка пад старшынством Юркі Туронка адбылося пасяджэнне навуковага гуртка БГКТ з удзелам дырэктара акруговага музея ў Беластоку Яна Ясканіса. Першы пункт павесткі дня быў прысвечаны абмяркоўцы тэматыкі публікаваных матэрыялаў у будучым навуковым зборніку, які Беларускае таварыства будзе выдаваць супольна з Беластоцкім навуковым таварыствам. Затым вырашалася справа будучыні нашага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Былі прапановы перанесці экспанаты з гэтага музея ў памяшканне ратушы ў Бельску. Справу новай сядзібы музея будзе абмяркоўваць яшчэ прэзідыум ГП БГКТ.

■ У рамках прыгранічнага супрацоўніцтва Беластоцкага павету са Свіслацкім раёнам у БССР жаночы харавы калектыў БГКТ з Гарадка 18 красавіка выязджаў у Свіслач з канцэртам.

■ 19 і 20 красавіка гурток БГКТ супольна з гуртком вясковых гаспадынь у Скупаве, што на Гайнаўшчыне, аўтобусам Галоўнага праўлення БГКТ выязджаў на краязнаўчую экскурсію. 35 жанчын пабывала на Люблiншчыне, у тым ліку ў гарадах Люблін і Пулавы.

■ 18 красавіка журналісты „Нівы" правялі сустрэчы ў школах Гайнаўскага павету. Вера Валкавыцкая пабывала ў Саках, Яніна Чэрнякевіч у Кляшчэлях, Мікалай Гайдук у Дашах, а Янка Цялушэцкі ў асадзе Чаромха. Школьнікаў і настаўнікаў цікавіла праблематыка „Нівы" і школьнага дадатку „Зоркі", а таксама праца рэдакцыі і спосабы прадукцыі газеты. (мх)




**Niedziela 4.V.** 6.10 Tech. Rol. Mat. 6.40 Hod. zwierz. 7.10 Now. w domu i zagr. 7.35 Antena. 7.55 Pr. dnia. 8.00 Dzien. 8.15 Wielkopolska tańczy i śpiewa. 9.00 Teleranek. 10.45 Ostatni rok — film dok. radz. odc. IV. 12.20 Horyzonty. 13.00 Disneyland. 14.00 Nie tylko dla pań. 14.40 Popularne przeboje. 15.10 Życie rodzinne zimorodka — film dok. ang. 15.45 Los. Toto-Lot. 16.00 Dzien. 16.15 Studio Muz. Rozr. 16.50 Lekt. Pegaza. 17.05 Sport. 18.15 Postaw się, nie zastaw się. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Zuzanna — film ser. ang. (Bel Ami) odc. ostatni. 21.05 Pojedynek cz. I. 21.55 Orkiestra G. Gollascha. 22.50 Sport.

**Poniedziałek 5.V.** 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) J. pol. B. Prus. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 15.00 Pr. dla harc. 15.50 Nurt — Psych. 16.25 Pr. dnia. 16.40 Dla dzieci. 17.30 Echo stad. 17.55 Warsz. persp. 18.10 Szkice na harfę. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Szare na złote. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr Współcz. S. Levis „Babbitt". 21.50 Pegaz. 22.40 Dzien. 22.55 Oferty.

**Wtorek 6.V.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. 8.50 Zuzanna — film ser. ang. (Bel Ami) odc. V. 9.35 Płomienie — film CSRS cz. I. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. J. Szaniawski „Żeglarz". 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) J. pol. Hist. książki. 14.35 Tech. Rol. J. pol. J. Słowacki „Liryki". 14.30 Tech. Rol. Chem. 15.00 Pr. dla harc. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Bitwa o Wrocław — film dok. 17.40 Studio Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Przyp., radz. 18.45 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Płomienie — film TV CSRS cz. I. 21.50 Interstudio. 22.30 Dzien. 22.45 Sport.

**Środa 7.V.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Chem. 7.30 Płomienie — film TV CSRS cz. II. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Fiz. Wędrówki ciepła. 10.00 (kl. VII) Drgania i fale. 11.05 Hist. O jaką wolność? 12.00 (kl. VIII) Chem. Cement. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.00 Pr. dla harc. 14.40 Politech. Kurs przygot. Fiz. cz. I i II. 15.50 Nurt — Naucz. pocz. mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Latający Holender. 17.25 Los. Mał. Lot. 17.35 Poligon. 18.05 Kr. Warsz. i Maz. 18.25 Droga wiodła od Dukli — film dok. 19.10 Wyst. Amb. Czechosł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Płomienie — film TV CSRS cz. II. 21.45 Epizod. 22.05 Dzien. 22.20 Sport. 22.50 Beata Tyszkiewicz.

**Czwartek 8.V.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 8.00 Kurs Informat. cz. I i II. 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) J. pol. W. Bogusławski. 13.00 Spoza gór i rzek. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Kr. Warsz. i Maz. 18.00 Wyścig Pokoju Prolog. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 21.05 Kierunek Berlin — film fab. pol. 22.25 Pr. publ. międzyn. 23.05 To kompania idzie nasza. 23.20 Dzien. 23.45 Sport.

**Piątek 9.V.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Siedem ostatnich dni — film dok. 10.35 Koncert Repr. Ork. WP. 11.25 Pol. film dok. 11.50 Pr. okolicz. 13.05 Pr. publ. 13.45 Dla dzieci. 14.20 Czekaj na mnie — film fab. radz. 15.55 Warszawski dzień. 16.30 Wyścig Pokoju. 17.10 Teatr Tamtych lat — film dok. 18.00 Aniuta — operetka. J. Milutina. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Ostatnie dni — film fab. pol. 21.40 Panorama. 22.20 Przeboje świata. 23.00 Sport. 23.15 Pr. poetycko-balet.

**Sobota 10.V.** 8.30 Pr. dnia. 8.35 Pr. I prop. 8.50 Red. Szk. zap. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o czł. Sprawy 15-latków cz. II. 9.30 Disneyland. 10.20 Klub Sześciu Kont. 11.05 Pr. publ. kult. 11.45 Gra Włośc. Ork. im. K. Namysłowskiego. 12.15 Inf. Wyd. 12.35 Pios. dla Ciebie. 13.25 Pr. rozr.-quizowy. 14.30 Z kamerą w TV CSRS. 15.10 Bolesław Płotnicki. 15.40 Pojedynek II runda. 16.30 STUDIO 2. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 STUDIO 2.




**Piątek 2.V** — 9.00 Spektakl. 12.45 Film dok. 16.15 Piłka nożna. CSKA—Łokomotiw. 2 poł. 17.30 Koncert pios. radz. 17.45 Teatr miniatur. 19.30 Pr. rozr. 21.25 Sport.

**Sobota 3.V** — 9.00 Spektakl. 11.30 Film. 12.20 Cyrk. 14.30 Klub film. 15.30 Filmy anim. 16.15 Film fab. 19.30 Koncert. 21.05 Sport.

**Niedziela 4.V** — 15.20 Koncert ork. dętej. 15.40 Sport. 16.15 Film fab. 18.20 Koncert zesp. lud. 19.30 Ekran dok. 20.35 Sport.




**Białowieża** Eglantine — fr. 6—7. Pułapka na generała — jug. 8—9. Dzień lwicy z buszu — ang. 10—11.

**Czeremcha** Kaprysy Marii — fr. 6—7. Nieznany — pol. 10—11.

**Czyże** Ostatni nabój — rum. Pułapka na generała — jug. 7—11.

**Dubicze Cerkiewne** Pomyłka szpiega — radz. Poczekam aż zabijesz — czes. 7—11.

**Gródek** Eglantine — fr. 10—11.

**Kleszczele** Rodeo — USA 6—7. Szaleństwo miłości — norw. 8—9. Zaczarowane podwórko — pol. 10—11.

**Michałowo** Lautarzy — radz. 6—7. Waleczni przeciw rzymskim legionom — rum. 8—9. Gniazdo — pol. 10—11.

**Milejczyce** Przygody misia Yogi — USA 6—7. Dzielny szeryf Lucky Luke — fr. 8—9. Wspaniały interes — fr. 10—11.

**Narew** Przygody Robinsona Kruzoe — radz. Labirynt miłości — radz. 7—11.

**Narewka** Nagrody i odznaczenia — pol. Nieszczęście Alfreda — fr. 7—11.

**Nurzec** Śmierć Ipu — rum. 6—7. Kochana ciocia Sarika — węg. 8—9. Ewa chce spać — pol. 10—11.

**Orla** Prywatny detektyw — ang. Zbrodnia jest zbrodnią — fr. 7—11.

**Rajsk** On nie chciał zabijać — radz. Wkrótce nadejdzie wiosna — radz. 7—11.

**Suchowola** Helga — RFN. Zła noc — czes. 7—11.

B.Z.Graf. zam. 1363 P-1

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 196


## Салдаты з чырвонаю зоркай

**Быў дзень сорак першага,**
**Чэрвеньскі дзень.**
**(Ад успамінаў горка).**
**І, сцісняўшы зубы, ішлі на ўсход**
**Салдаты з чырвонаю зоркай.**

**Быў змрок акупацыі,**
**Мука і смерць,**
**Слёзы і боль бясконца.**
**Мільёны вачэй выглядалі цябе —**
**Салдата з чырвонаю зоркай.**

**Быў май сорак пятага,**
**Дзень праясней,**
**І шчырай, шчаслівай гаворкай**
**„Вялікае дзякуй“ дарыў Чалавек**
**Салдатам з чырвонаю зоркай.**

**Сягоння дзень светлы,**
**Красуйся бел свет!**
**Шугае мір песняю звонкай.**
**Цаніце, шануйце, любіце усе**
**Салдата з чырвонаю зоркай!**

**Мікалай Варанецкі**



## Да незнаёмага

*Я ўчула тваё ціхае „дзень добры“,*
*хтосьці адказаў і запрасіў сесці,*
*убачыла твар дробны,*
*галінкі чорных броў над сінімі вачамі,*
*шчарбінку між пярэднімі зубамі,*
*устойлівы позірк ясны.*
*Ў пакоі пахла лесам, вясной,*
*чымсьці блізкім, чыстым, добрым.*
*Яно было ў рук поціску,*
*хацелася прысягнуць высілкам*
*немагчымым,*
*дакрануцца, паслухаць сэрца званкі,*
*але пальцы коўзаліся па „ты“*
*цвёрдым,*
*акалечаныя, маўчалі.*

**Ніна Гаўрылюк**

* ✲ *

Глянь расцвітаюць зоркі
неба над намі схілілася
як вішня ў квецені белым
і вецер пагладзіў далонямі твары
і месяц як князь у лектыцы
марыць.
а мо ён паэт найвялікшы
пішa паэмы
ў аблоках
пра таямнічасць натуры
якой ніколі не зглыбім
як добра быць чалавекам
не знаўшы істоты сусвету
і так як мы сёння з табою
ісці пад сузор'ямі-вішнямі
ў краіне таемнай казкі
і паэму чытаць рукамі
на цела твайто пергаменце
і не чакаць развязкі

**Алесь Барскі**



## Маці

*трэба б паліць*
*незабудкі*
*яе вочы*
*забылася я*
*у торбе падарожнай*
*вясной мочыць*
*зёлкі пісьмаў*
*і знае*
*у ліпені*
*дам пах ліпам*
*шапну сярпом*
*замяшання*
*— на ківок галавы*
*— развітальны*

**З. Сачко**

## Быў сад

Быў сад,
у якім плод цвыркаў, як
птах
на світанні дня.

І пні дрэў,
як калоны — Афінаў цвет,
старажытных плод.

І галіны,
як вянец блакітнага дня,
іскрыстых звёзд.



І лісцё,
як крылы, што ўзняў птах
на славуты лёт.

Быў сад...

Быў вецер,
які бясканечна кідаў
каронамі дрэў.

І
непрыкметна скідаў плады
з уквечаных жыццём дрэў.

**Юрка Баена**

* * *

*Прысвячаю Бельску*

Мой родны горад маленькі
Маленькі
Як кропля дажджу
Жыццё кроплі дажджу
Кароткае
Яна расплываецца
Перастае існаваць
Калі ўпадзе на зямлю:

Мой родны горад
Малы
Як кропля дажджу
Але
Не расплываецца ён ніколі
Не знішчыць яго бура
Агонь не спаліць.

Горад мой
Твае вузкія вуліцы
Поўны людзей
Людзей старых
І дзяцей
Як добра
Уліцца ў раку старых людзей і дзяцей
Удыхаць
Паветра.
Дрэва без кораня
Усыхае
Чалавек без паветра
Умірае.

**Надзея Артымовіч**
Варшава

## А жыце чоловека?

*Толпа*
*пэрэд намы*
*і за намы,*
*— А дэж мы? —*
*нэ находым самы сэбэ.*

* ✲ *

*По дорогах нэпротэртых*
*шукаем....*
*і імкнэмось*
*у надыйі.*
*Марым,*
*марым*
*і марым*
*у бэскрэсному сэнсовы.*

* ✲ *

*Молодосць — поранок будушчого,*
*Старосць — нэдопалок пэрэжытого,*
*А жыце чоловека?*
*. . . .то запутана*
*в клубок*
*нітка.*

**Іван Кірызюк**



✲

Спакойным сном дзіцячым
калыскай ўкалыханы
плывеш ў незразумелы
у свет жыцця й людзей
захлынешся ў будучым
каханнем і нянавісцю
без гора стрэнеш шчасце
і гора без людзей.

✲

Гады йдуць безупынна
гады йдуць без агляды
вясёлы смех юнацтва
іроньяй прагучыць
і снегам заірдзяцца
завеяныя скроні
і час маршчын бараздамі
твар густа збаразніць.

✲

Замоўкнеш як спявак ты
замоўкнеш абяссілены
правецца існавання
працяжны твой напеў
і забярэш з сабою
усё чым жыў — у цемрадзь
ўсё тое што зрабіў ты
ўсё тое што не ўспеў.

**Кастусь Бандарук**

**З візітам — гродзенцы**

## СЛАВА

Фанфараў медных
гучныя акорды
Няўмольна глушыць
гром апладысментаў.
Ідуць насустрач
будучым рэкордам
Асілкі ўсіх краін
і кантынентаў.
Апошні круг
пачэснага параду...
На старце суддзі:
— Увага!
Калі ласка!
І вось выходзіць
смела да снарада
Нікому невядомая гімнастка.
Адразу тэмп
няўрымслівы і бурны.
Тут нельга
абыякавым застацца.
Ураз заціхлі здзіўлена
трыбуны —
Не, тут не спорт —
сапраўднае мастацтва!
Яшчэ віток
і... радаснае: о-па!
Панікл „зоркі“,
хто лічыўся ў чыне...
Грыміць апладысментамі
Еўропа,
Узносіць славу
гродзенскай дзяўчыне.
П'яніць нязвыкла
пераможцы роля.
Ад рэпарцёраў
не абараніцца.
У самым цэнтры ўвагі
наша Оля —
Маленькая спартсменка-чараўніца.
І твар,
такі нам блізкі, родны,
Усмешкі шле
з пачэснага ўзгорка.
...А мо ля тэлевізара
ў Гродна
Застыла сціпла
будучая зорка?

**У. Шурпа**

* ✲ *

*На гарызонце лесу готык,*
*А я іду папросту ў гушчу,*
*Пад лесу царскія вароты,*
*Да хараства імкнуся пушчы.*

*І заглядаюся ў крыніцы,*
*У крышталічным ізумрудзе.*
*Кадзільны арамат жывіцы*
*Струменіцца бясконца ў грудзі.*

*Не моўкне гоман шматгалосны,*
*Спеў жыхароў лясных парогаў,*
*Што падымаюць пад нябёсы*
*На крылах радасць і трывогу*

*Пазнаць бы дрэва ў пушчы цену,*
*Што дасць мне дошкі пасля скону.*
*Прад ім упаў бы на калені*
*І цалаваў бы, як ікону.*

*Мо лепш на вечны адпачынак*
*З карэннем дрэваў мне зрадніцца.*
*Магутнай прарасці ялінай*
*І ап'яняць людзей жывіцай.*

**Віктар Швед**

На дварах стаяла ўжо даволі цёплая вясна і перамучаныя працай сяляне чакалі, як кожны год гэта бывала, вялікага веснавога свята.

Набліжаўся вялікдзень і тры дні адпачынку, калі можна будзе пасля посту смачней і скаромна паесці. Не ад граху можа, а дзеля ашчаднасці і быў гэты пост, каб хапіла на свята і яшчэ асталося скораму на летнюю трудавую пару.




Свята паводле традыцыі распачыналася „усеначнай“ з суботы на нядзелю, а малышы — нават раней — ужо перад вечарам бегалі басаનож у саматканай новай вопратцы і абавязкова ў новых шапках. Яны цешыліся, што дома так многа нагатоўлена тлустай ежы, салодкіх „мазуркаў“ з разынкамі і фарбаваных яек. Ужо нямнога засталося чакаць — толькі да заўтра... А мо некаторым ужо і дагэтуль удалося ўкрунуць нешта смачнае, каб не ўбачыла маці?.. Пра гэта добра ведаў Сева, якому няраз такое „злачынства“ ўдавалася...

Амаль усе маладыя і старыя — рыхталіся нанач ісці ў царкву, прычым моладзь больш пад царкву — для сустрэчы...

(Працяг на стар. 4)

# ВЕР-НЕ-ВЕР

**„ДАРАГІ АСТРОН!**

Два гады назад прысніўся мне сон, які здаецца вельмі дзіўным.

Мне снілася, што аднойчы я ехала з сяброўкай фурай. Я сядзела ў сярэдзіне, крыху як бы ззаду і кіравала канём. На сустрэчу нам ехала другая фурманка, на якой ехаў малады, сват і дружка. Калі фуры нашы міналіся, малады кінуў мне чорную сумку. Сумку гэту я адкрыла і выцягнула вэлюм. Я запамятала твар маладога, аднак у сваім жыцці я такога хлопца не спаткала. Ніколі мне яшчэ не здарылася так памятаць сон. Мне здаецца, што частка сну ўжо споўнілася. Вось сяброўка, якая сядзела з левага боку, выйшла першая замуж, другая пазней, я — яшчэ не. Цікава, што абазначае сумка з вэлюмам?

З паважаннем

Уршуля з Бельшчыны“.

Дарагая наша чытачка!

Вы ехалі на фурманцы (хісткая, няпэўная справа). Скажыце, а ці ж справа выхаду замуж — гэта справа пэўная?! Ніколі не вядома: калі і за каго! Латарэя, можна сказаць...

Вы пішаце, што частка вашага сну ўжо споўнілася. На жаль, споўнілася і рэшта. Малады (нейкая любоўная інтрыга) у супастаўленні з сватам не прадвяшчае нічога добрага (у кожным разе ў справах кахання — нейкія плёткі, сваркі, ашуканства). Далей. Малады кінуў сумку вам, а ў ёй быў вэлюм. Але сумка была якая? Чорная! А чорны колер, які спалучае ў сабе ўяўленне аб ночы і цемры, сімвалізуе найчасцей дрэннае. У справах пачуццяў таксама.

Але на будучыню: будзьце добрай думкі. Конь, якім вы кіравалі, дае надзею на добрае завяршэнне справы.

**Астрон**




**Дарагое „Сэрцайка“!**

У мінулым годзе закончыла я ліцэй. ...ацела вучыцца далей, але не па...анцавала на экзаменах і пайшла на ...боту. Неўзабаве пазнаёмілася з хлоп...м. Міша ён завецца. Яму 26 год. Добра ...рабляе, мае ўласную таксоўку. Хо...зім мы больш паўгода. Міша гаварыў, ...то я яму вельмі падабаюся, што мя...е кахае. Ён мілы, спакойны, добры ...лопец, але пакахаць я яго не змагла, ...роста прывыкла толькі і стаў ён ...не блізкім сябрам, з якім прыемна па...гаварыць, пайсці ў кіно ці на танцы. Але аднойчы Міша сказаў, што няма чаго далей так хадзіць, пара б жаніцца. Я спачатку завагалася, але, прадумаўшы ўсё, згадзілася. Сказалі мы аб нашых намерах бацькам. Адны і другія згодныя. Асабліва маці Мішы цешылася, што ўрэшце ажэніцца яе адзіны сын. Вяселле вызначылі на лета. Здавалася б, што ўсё гладка ідзе, але нядаўна, зусім выпадкова, сустрэла я хлопца, з якім яшчэ будучы вучаніцай хадзіла. Хадзілі мы тры гады. І кахалі адзін другога. Але нейк паспрачаліся, праз плёткі. Разышліся і не спаткаліся ўжо больш, аж вось да гэтага моманту. Гледзячы на яго і размаўляючы з ім, я адчула як моцна кахаю яго і які чужы стаў мне ў гэты момант Міхась. Мірэк — так гэты хлопец завецца, сказаў, што вельмі сумаваў па мне, але не верыў, што ўдасца вярнуць мінулае. А цяпер, сказаў ён, нічога ўжо нас не разлучыць. А я нягледзячы на ўсё, паўтарыла за ім. Ведаю, што цяпер не змагу я ўжо далей хадзіць з Міхасём, а тым больш выйсці за яго замуж. Дагэтуль я ашуквала яго і сябе, гаворачы, што кахаю. Але як сказаць праўду Міхасю, ды бацькам, якія ўжо да вяселля рыхтуюцца? Не маю адвагі, і таму прашу, „Сэрцайка“, парай, як мне паступіць?

**Ася з Беластока**

**Ася!** Нічога іншага, як сказаць, нават не адкладаючы, усю праўду і Міхасю і бацькам. Непрыемная для іх будзе гэта вестка. Растлумач усё. Павінны цябе зразумець. Лепш, каб сталася гэта раней, чым пазней. Міхасю таксама мусіш сказаць. Няма сэнсу яго далей ашукваць. Крыўдна яму будзе, пачуўшы гэтую горкую праўду, але ж і пазбегнуць гэтага немагчыма.

**„Сэрцайка“**

# § Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Пасля смерці бацькі астаўся ў мястэчку пляц 1.500 м². Правы на спадчыну сцверджаны на чацвёра дзяцей. На пляцы знаходзіцца дом і іншыя будынкі, з якіх карыстаецца А. Другі наследнік В. мае побач сваю сялібу з будынкамі. Трэці наследнік перадаў свой удзел у спадчыне В. Чацверты наследнік яшчэ пры жыцці бацькі выехаў у Варшаву і спадчынай па бацьку не зацікаўлены. Паколькі В. належыцца палова спадчыны (два ўдзелы), то ці можа ён патрабаваць выдзялення яму паловы пляцу? Каму прыпадзе ўдзел чацвертага наследніка?

АДКАЗ: Пры падзеле спадчыны суд не абавязаны выдзяляць наследнікам у натуры часці, адпаведныя да іх удзелаў. Суд можа прыдзяліць цэлы пляц аднаму з наследнікаў. На падзел пляцу ў горадзе неабходна згода гарадскога ўпраўлення. Калі яна не згодзіцца на падзел, цэлы пляц будзе прыдзелены аднаму, ад яго прысудзяцца сплаты на карысць астатніх. У даным выпадку найбольш праўдападобна, што пляц будзе прыдзелены А., які пражывае на ім. В. у гэтым выпадку атрымае сплату велічынёю ў палову вартасці пляцу. Не выключана, што ён можа атрымаць частку пляцу на пашырэнне сваёй сялібы. Адносна чацвёртага наследніка, то суд пакліча яго да справы і, калі ён не адрачэцца перад судом ад свайго ўдзелу на карысць іншых наследнікаў, прысудзіць яму сплаты.

# Этнаграфічнае акенца



*Прыгожыя ва ўзоры саламяныя дарожкі тчэ Люба Гаворка з Крывяціч Бельскага павету.*

Фота **Я. Цялушэцкага**

# Куток практычных ведаў




**ПАДРЫХТОЎВАЮЧЫ АБЕД...**



■ Купляючы ялавічыну, трэба падумаць спачатку, што мы хочам з яе зрабіць. Калі хочам зрабіць смажанае мяса, трэба ўзяць крыху большы кавалак і патрымаць яго 2-3 дні ў лядоўцы (у замаражальніку) або прынамсі загарнуць у змочаную воцатам сцірачку. Мяса стане тады больш крухкім. Калі хочам рабіць адбіўныя катлеты, трэба выбіраць мяса маладых кароў (светлачырвонае, светлы лой), не паросшае сцёгнамі і жылкамі. Падрыхтоўваць яго адразу, спырснуўшы крыху лімонным сокам. Саліць ужо на патэльні. Калі хочам падаць на другое блюда варанае мяса, трэба класці мяса ў кіпяток, саліць праз паўгадзіны. Калі мы хочам зрабіць нейкі фарш, то можна ўзяць і горшае мяса — паросшае тлушчам ці жылкамі.

■ Усялякія дадаткі, што прыдаюць супу адпаведны смак, напрыклад, кіслыя агуркі, памідоры, шчаўе і г.д., дадаем у працэджаны навар; тушыць іх асобна з невялікай колькасцю масла, агуркі трэба абабраць і парэзаць дробна, памідоры працерці праз сіта.

■ Калі здарыцца, што перасолім крыху суп, дык трэба дадаць да яго некалькі сырых бульбін і хвіліну паварыць, пасля чаго выняць з супа.

■ Каб смятана, якую дадаем да супа, не зварылася, трэба невялічкую колькасць смятаны змяшаць з лыжкай мукі, а ў гэта ўліць крыху астуджанага супу і ўсё гэта ўліць у рэшту цёплага, але не кіпячага супу, паволі памешваючы, закіпяціць. Адставіўшы з агню і крыху астудзіўшы суп, уліць рэшту смятаны.

■ Страва будзе смачная, калі мы адпаведна дададзім розныя прыправы (перац, англійскае зелле, лаўровы лісток, майранак, кмен і г.д.). Дамо замнога — сапсуем не толькі смак, але і зробім страву шкоднай для здароўя. Таму ўсе прыправы дадаем патроху, прабуючы, прабуючы і яшчэ раз прабуючы.

**Гаспадыня**




Чалавек-шпік бязгучна смяяўся. Сівы бачыў яго твар у маленькім люстэрку над ветравым шклом.

„Жменя тытунёвага пылу — уся мая зброя, — думаў разведчык. — Я яму падазроны... Чым? Ён нават не глядзеў на мае дакументы... Тады чым жа? Агіда да інтэлігента, які ўцёк ад рускіх?“

— Дзе вы так пасівелі, доктар, — лянівa, з ненатуральнай раўнадушнасцю спытаў той, хто сядзеў ззаду.

— У мяне загінула сям’я.

— І мамачка таксама?

— Ён размаўляе са мной, як з асуджаным... Але ў машыне страляць не будзе... Зверне з шашы... Іх двое. Прыгаршчы тытунёвага пылу на двух...“

Сівы напружана пазіраў перад сабой, ловячы вачыма слупікі з указальнымі знакамі. Ён успамінаў карту і звяраў яе па памяці з назвамі населеных пунктаў на ўказальніках. Цяпер важна было сарыентавацца.

Раптам машына рэзка звярнула на прасёлачную дарогу і па баках вырас яшчэ аголены па-веснавому лес.

Праехаўшы крыху, машына спынілася.

Птушцы час адлятаць... — шматзначна сказаў чалавек-шпік і, адчыніўшы дзверцы, выйшаў з машыны.

Шафёр, рослы эсэсавец, не выключаючы матора, штурхнуў Сівога ў плячо, даючы зразумець, каб ён пакінуў машыну.

Сівы разняў кулак, дзе захоўваліся прыгаршчы тытунёвага пылу, і рэзка кінуў яго ў твар эсэсаўца. Шафёр коратка ўскрыкнуў — пыл трапіў у вочы — і выцягнуў наперад рукі, стараючыся ўсляпую злавіць разведчыка за куртку. Рабром далоні Сівы ўдарыў эсэсаўца па карку, там, дзе знаходзілася сонная артэрыя, і ўключыў хуткасць.

Новенькі „опель“ рвануў з месца. Ззаду грымнуў выстрал, другі. Сівы чуў, як кулі забарабанілі па метале, і, наваліўшыся на баранку грудзьмі, яшчэ мацней націснуў на педаль газа.

Ад’ехаўшы з паўкіламетра, разведчык спыніў машыну і выцягнуў на абочыну шафёра, які яшчэ не апрытомнеў. Хутка абшукаў яго. Зброі не было...

Сівы гнаў „опель“ па пасёлку, не ўключаючы фар, імкнучыся ад’ехаць ад шашы як мага далей. Ён выйграў мінут дваццаць. У тым, што за ім будуць гнацца разведчык не сумняваўся. Машына таіла ў сабе небяспеку. Яе абавязкова спыніць ваенны патруль. І потым, машына — гэта след. Яго шчасце, што ноч і туман узнімаецца з нізін.

Да плацінны не больш як дваццаць кіламетраў, яна злева ад дарогі. Значыць, зварочваць трэба ўправа і ў першы ж роў спусціць „опель“...

...Сівы зрабіў некалькі крокаў ад рова і выйшаў на прасеку. Лес шумеў. Над неспакойнымі вершалінамі беглі воблакі, афарбаваныя бледным святлом месяца. Далёка за лесам узнікала і прападала серабрыстае зарыва.

Расістае поле ляжала перад разведчыкам. Цёплым вільготным ветрам абмыла яму твар.

Сівы прыхінуўся да ствала. Кара была мокрая. Ён паглядзеў на суседнія дрэвы. Яны таксама паблісквалі вільгаццю. Дрэва ўздрыгнула. Кроплі з яго ўпалі за каўнер курткі, і ад гэтага холадна стала спіне.

Сівы перасмыкнуў плячыма і, пераступаючы цераз гарбатыя карнявішчы, пайшоў па прасецы да поля. Узараны танкамі суглінак падатліва расступіўся пад яго нагой. Усё здавалася нерэальным — і гэта неба, шэрае і нізкае, як у сне, і гэта дрыготкае святло, якое гатова ў любую мінуту рассеяцца. Вочы Сівога прывыклі ўжо да акружаючага, свядомасць жа была яшчэ прывязана да сутычкі на дарозе. Але ён ніяк не мог успомніць твару чалавека-шпіка...

Сівы ішоў строга на захад, арыентуючыся па зорках, якія то адкрываліся, як у калодзежы, то зноў зацягваліся воблакамі.

З паўночы моцны туман пачаў перашкаджаць разведчыку.

„Плаціна блізка, — падумаў Сівы, — гэта ад вадаёма такі туман“.

Сосны выплылі са змроку раптам, а неўзабаве разведчык разгледзеў і дом

